# ЗНО
## ЛІТАРАТУРНА-ФІЛАСОФСКІ СШЫТАК
ЗНО 6

Сяргей САНЬКО

# КАЛІЗІІ НОВАЕЎРАПЕЙСКАГА МЫСЛЕННЯ



XX стагоддзе вызначаюць па-рознаму: то як пачатак новай «касмічнай эры чалавецтва», то як эпоху «глабальнага крызісу капіталізму», то як-колечы яшчэ. Але з гледзішча той культурнай сітуацыі, што сталася рэальнасцю нашага часу, відаць, не будзе вялікай памылкай сцвярджэнне: XX стагоддзе — гэта час «вялікага знака пытання», які неўнікова з'яўляецца ўсякі раз акурат там, дзе спрабуе знайсці сабе хаця б часовае апірышча тэарэтычная рэфлексія. Ледзь не на вачах не спраўджваюцца грандыёзныя тэарэтычныя праекты: спробы абгрунтавання матэматыкі і тэарэтычнага прыродазнаўства, самаабгрунтавання навукі ў праекце фенаменалогіі Гусэрля, спроба прарыву па-за межы метафізікі сродкамі самой метафізікі ў анталогіі Гайдэгера і багата чаго іншага.

Урэшце, усё здаецца пастаўленым пад сумніў. Што лічылася за цвёрда і настала ўстаноўленае і засвоенае, зноў запатрабавала праверкі, выпрабавання, ператлумачэння, пераацэнкі. Так імкнецца да свайго апагею эпоха, прадчутая некалі Дэкартам і сімвалічна ім прагавораная (і сурочаная) у прынцыпе *εποχη*. Адно, што не прадугледзеў Дэкарт, гэта тое, што сумнявацца можна і ў самім сумніве, прынамсі, у правадзейнасці заключэння ад *εποχη* да відавочнасці «Я» сумліўцы. У прыватнасці, гэткай уяўляецца стараіндыйская санскрытамоўная культура, ды, відаць, не яна адна.

У звязку з усім папярэднім не можа не паўстаць адно пытанне, што дагэтуль, наколькі нам вядома, ніколі не станавілася прадметам спецыяльнай рэфлексіі, а менавіта: у якіх стасунках знаходзіцца эксплікаваная тут тыпалогія «філасофій мовы» з тыпалогіяй культур? Зразумела, што ў парадыгме на пэўны лад зразуметай «лінгва-культурнай адноснасці» гэткае пытанне не толькі натуральнае, але і проста непазбежнае. Па сутнасці, тут гаворка павінна ісці пра тое, *што* ў той ці іншай культуры прымаецца за *норму* або *ідэал* ва ўзаемных дачыненнях мовы, мыслення і свету, прымаецца за «належнае», а не за «істотнае», бо ў кожнай культуры могуць адначасна суіснаваць розныя, тэарэтычна змадэляваныя тут, сітуацыі. Натуральна, адказаць на пастаўленае пытанне не лягчэй, чымся давесці або адвергнуць «лінгвістычны рэлятывізм». Але, здаецца, што яно вартае, прынамсі, спецыяльнага даследу прадстаўнікамі розных галінаў гуманітарнай веды.

І ўсё ж цэлая вялікая эпоха, якую XX стагоддзе толькі вянчае, магла б (у нейкім сутнасным яе вымярэнні) з поўным правам быць злучана з імем Дэкарта. І ці не «іронія лёсу», што менавіта Дэкарт найчасцей апынаецца ў ролі таго «скрайняга», на адрас каго накіроўваюцца стрэлы сучаснай крытычнай рэфлексіі, але разам з тым, адштурхоўваючыся ад каго, як ад *свайго* іншага, паўстаюць шматлікія спазнаваўчыя праекты нашага часу, у выніку яшчэ і яшчэ раз спраўджваючы самы дух таго, ля вытокаў чаго ў гістарычнай відалі непазбежна аказваецца Дэкарт, а менавіта — традыцыі новаеўрапейскага рацыяналізму.

«Горныя сцяжыны» еўрапейскай культуры XX стагоддзя аказваюцца складзенымі спрэс з адных «паваротаў» (Kehre, як вобразна і таямніча называў свой уласны паварот да «іншага мыслення» Гайдэгер): культуралагічнага, антрапалагічнага, лінгвістычнага, сацыялагічнага, да «іншага мыслення» і да іх падобных. Але спадзевы, імі спароджаныя, неўнікова саступалі месца новым шэрагам адменнікаў, па сутнасці аднаго галоўнага пытання нашага часу: «што ёсць чалавек?» Пытанне, што напрыканцы XX стагоддзя гучыць ці не больш надзённа, чым на яго пачатку, як і зробленая калісь зацемка Макса Шэлера: «...яшчэ ніколі ў гісторыі *чалавек не станавіўся нагэтулькі праблематычным для сябе*, як у цяперашні час».

Гэта «навязлівая» праблематычнасць чалавека ў любых сучасных тэарэтычных пабудовах добра ілюструе колішні тэзіс Гайдэгера пра тое, што любая дзея мыслення ёсць запыт, які мае на воку цэлае, звычайна гуканае светам, і ставіць пад пытанне самога таго, хто запытвае. «Як наогул магчымы чалавек?» — вось пытанне, што ўтварае адмысловы пакрыёмы нерв сучаснай еўрапейскай культурнай сітуацыі. Усе астатнія пытанні (накшталт: «як магчыма спазнанне?». і іншыя гэтага роду) выглядаюць за яўныя дэрываты гэтага першага і найгрунтоўнага пытання.

Гэта акалічнасць, безумоўна, не можа не ўносіць прыкметнага дысанансу як у самаадчуванне сучаснага чалавека, гэтак і ў яго тэарэтычныя асэнсаванні. Канфлікт, што мае за арэну свайго разгортвання самога чалавека і пагражальна разрастаецца, жывячыся, апроч іншага, і з прынцыповай нявызначанасці дачыненняў чалавека з пакліканай ім да жыцця новай анталагічнай сілай — сучаснай тэхнікай, патрабуе нейкага радыкальнага вырашэння. І, як гэта нарматыўна здараецца ў культуры пэўных тыпаў, падобная фундаментальная канфліктнасць шукае хаця б якога-колечы ўладкавання ў пэўных адменніках міфалогіі, рэалізаванай сістэмамі бінарных апазіцый, на асаблівы лад нейтралізаваных.

У сферы спазнання адным з гэткіх міфаў, што «спрашчаюць жыццё» тэарэтыкам, хоць крыху змякчаючы вастрыню і трагізм галоўнага пытання пра чалавека, з'яўляецца міф пра прынцыповае сутнаснае адрозненне «навук аб духу» ад «навук аб прыродзе». Гэта фундаментальная апазіцыя новай рацыяналістычнай міфалогіі XX стагоддзя пачаткова легітымізавалася ў межах дыльтэеўскага праекта «філасофіі жыцця», праўда, у даволі адрозным ад актуальных сёння кантэксце, і ў другой палове XX стагоддзя сталася той жаданай «выспай стабільнасці», той нерэфлектаванай далей відавочнасцю, на «трывалым» грунце якой быццам бы набываюць асэнсаванасць любыя памысныя гранічныя запыты. Знешнім вынікам гэтага сталася з'яўленне такой колькасці прац, аўтары якіх палічылі за свой абавязак на розны манер далучыцца да тыражавання знакаў новага сімвала рацыяналістычнай веры, што яны наўрад ці падлягаюць зараз якому-колечы ўліку. Дзякуючы свайму шматкротнаму прагаворванню зазначаная апазіцыя імкліва разгортвае сваю адмысловую ўнутраную сістэмнасць. І вось без асаблівых цяжкасцяў выбудоўваюцца — ну нагэтулькі рацыянальныя — сімвалічныя ланцужкі: «навукі аб прыродзе» — «тлумачэнне» — «лагіцызм» — «маналагізм» — «проціпастаўленасць суб'екта і аб'екта» і г.д., з аднога боку, і «навукі аб духу» — «разуменне» — «гістарызм» — «дыялагізм» — «непроціпастаўленасць суб'екта і аб'екта» і г.д., з другога боку.

Зацемім яшчэ, што падобныя сімвалічныя шэрагі, як правіла, не пазбаўлены выразных каштоўнасных канатацый: «разуменне» найчасцей праходзіць са знакам «плюс», у той час як «тлумачэнне» — адпаведна з адваротным знакам. Але ўжо тая патрабавальнасць, з якой у XX стагоддзі розум не раз маніўся паставіцца да самога сябе, вымагае пастаноўкі пытання: ці не ёсць гэта яўна неадрэфлектаваная страсць (часцяком з прэтэнзіяй на нарматыўны для новаеўрапейскай культуры універсалізм) да структавання *свайго* «жыццёвага свету» (Lebenswelt, паводле Гусэрля) на дуалістычны лад і разумення яго выключна ў бінарных кодах не проста вынікам спецыфікі гістарычнай пазіцыі тых, хто спрабуе сёння весці дыялог з самой (сваёй) традыцыяй, але і ўрэшце рэшт іх прыналежнасцю да культуры пэўнага тыпу — з нарматыўным, напрыклад, гіпастазаваннем «лагіцызму» або «гістарызму» як адваротнымі бакамі адно аднога, а па вялікім рахунку — праявамі нейкай адзінай пакрыёмай існасці, што ўтварае сутнаснае ядро гэтага тыпу культуры, з абавязковымі «бінарызмам» і «універсалізмам».

А між тым ёсць падставы сцвярджаць, што адзначаны «дыялог з традыцыяй» і выніковае «разуменне» традыцыі ў гэтым тыпе культуры адно і магчымы, калі апошняя папярэдне ўжо сталася праінтэрпрэтаванай і вытлумачальнай у тэрмінах усё тых жа «бінарных апазіцый» (напрыклад, «веры» і «розуму»). Сімптаматычна, што нават Гадамэр, які, як ніхто іншы, з усёй сур'ёзнасцю ставіўся да абумоўленага прыналежнасцю да гістарычнай традыцыі феномена «прадразумення», без агаворак прымае зацемленую «фундаментальную апазіцыю».

Дзеля ўмацавання гэтай апазіцыі яшчэ і яшчэ раз заклінаецца дух Картэзія як аднаго з пачынальнікаў традыцыі класічнага рацыяналізму з яго «вытлумачальніцкім» ідэалам, што стаўся нарматыўным у еўрапейскай навуцы Новага часу. Але дамо слова самому Дэкарту. Напрыклад, у «Трактаце пра святло» чытайма: «Я не стаўлю сабе за задачу, падобна ім (ранейшым філосафам. — С.С.), *растлумачыць* (курсіў мой. — С.С.) рэчы, што на самой справе існуюць у сапраўдным свеце. Я проста ўяўляю сабе дзеля ўласнага задавальнення гэткі свет, у якім няма анічога, чаго б не былі здольныя *зразумець* (курсіў мой. — С.С.) самыя грубыя розумы».

Як бачна, Дэкарт быў зусім не ад таго, каб пры нагодзе звярнуцца да папулярнай зараз апазіцыі «тлумачэнне» — «разуменне». Ды й сама сітуацыя гэтак нагадвае сённяшнюю: Дэкарт — у поўнай згодзе з сучаснай «некласічнай» спазнавальніцкай устаноўкі і зусім падобна яго цяперашнім крытыкам і інтэрпрэтатарам — адпрэчваецца ад папярэднікаў, што, як і пазнейшыя прыродазнаўцы, ставілі сабе на мэце вытлумачэнне рэчаіснасці. Сам жа ён шукае такога ракурсу, адно ў якім стан рэчаў мог бы быць зразуметым і пры гэтым *зразуметым* слушна нават «грубымі розумамі».

Безумоўна, можна было б запярэчыць, што рызыкоўна, грунтуючыся на якім заўгодна блізкім падабенстве, праводзіць далёкія паралелі з цяперашняй культурнай сітуацыяй, што існуюць гэткія ракурсы, у якіх адрозненне разгляданых спазнавальніцкіх установак сапраўды выглядае за грунтоўнае. Гэта, канечне, не выключана. І тым не менш ужо і гэтага кшталту паралелі не могуць жывіць своеасаблівага «дыялектычнага падазрэння», а менавіта, што зазначанае тут адрозненне сапраўды ёсць істотнае адрозненне, гэта значыць — адрозненне *існасці* ў сабе самой, якая і гарантуе суадноснасць самых адрозненных момантаў (Гегель).

Мы не схільны лічыць за выпадковае назіранае падабенства выяўленай Дэкартам спазнавальнай інтэнцыі з інтэнцыямі багата якіх сучасных гуманітараў, што перадусім Дэкарта маняцца выключыць акурат з той традыцыі, да станаўлення якой ён быў спрычынены самым непасрэдным чынам. Магчыма, маем тут справу з нейкім гісторыка-філасофскім адменнікам «аберацыі блізкасці», што з'яўляецца адным з вынікаў адзначанай М.Гайдэгерам агульнай змены тапалогіі культурнай прасторы ў тэхналагічных цывілізацыях.

Мы не ставім тут на мэце прааналізаваць усе менш-больш істотныя маніфестацыі «фундаментальнай апазіцыі» сучаснага рацыяналізму. Усё, што мы паспрабуем зрабіць тут, — гэта паказаць, што існуе, відаць, гэткі адмысловы ракурс раз-

*(Заканчэнне на стар. 6)*

ЗНО
Паэзія

## Леанід ГАЛУБОВІЧ

# ЗГАДКІ ПРА ДОМ



### *ФАСАД НА МЯСЦОВАСЦІ*

*Няпэўная пара.*
*Скупы халодны дождж...*
*Пад небам выстылым,*
*Раскрыўшы парасон,*
*Чакаю снегу...*

*

*Бачыш: счарнелае дрэва*
*Ліст апошні не выпускае з рук...*
*І ты трымаешся за мой паліто,*
*Як дысанансная рыфма*
*За сіратлівы гук...*

*

*Пад Новы год*
*Нічога я не загадваю.*
*Хоць бы спраўдзілася тое,*
*Пра што тужыць закутая*
*ў лёд рака...*

*

*Вясны ўсё няма і няма...*
*З трывогай хатнія кветкі*
*Сочаць скрозь шыбы*
*За чорнымі клумбамі...*

### *ІНТЭР'ЕР*

*У закрытым карабку запалак*
*Пануе чуйная цемра...*
*Давай не будзем паліць святло.*
*Ты ўся гарыш у маіх далонях...*

*

*Ты,*
*плоць сваю забыўшы,*
*Спіш...*

*А я,*
*яе спазнаўшы,*
*Халадзею...*
*Ды месяца святло*
*Змушае і мяне*
*Аддацца ночы...*

### *МІКРАРАЁН*

*Дачка ловіць матылька.*
*Я лаўлю цябе.*
*Мяне ловіць трава.*
*...Невад неба навіс...*

*

*Ты,*
*як падснежная трава,*
*Што адмакае ў весняй ручаіне:*
*Няма жыцця,*
*Застаўся толькі колер...*

*

*Бывай!*
*Мы ніколі ўжо не сустрэнемся.*
*Дзверы зачыніліся перад ваччу...*
*Цягнік пасунуўся ў цемру,*
*А рэйкі — ляжаць*
*нерухома.*

### *ПУСТКА*

*Цябе — няма...*
*А знакі ўсе жывуць*
*Твае*
*ў кутах кватэры нелюдзімай...*
*Завялі ў шафе кветкі на сукенцы,*
*Пялёсткамі,*
*нібыта немаўляты,*
*Шукаючы саскі тваіх грудзей...*
*На ложку,*
*згвалтаваным адзінотай,*
*Прачытанай, завучанай напамяць,*
*Бялеецца бяроста прасціны...*
*Набітая тваімі валасамі,*
*Жаночымі чужымі галасамі*
*Падушка будзіць сон...*
*А памяць прарастае згубным семем*
*Тваіх шчымлівых сударгавых слоў...*
*І паўстае абуджаная плоць*
*Шукаць цябе па ўсім пустым Сусвеце...*
*Пытаюся: што гэта —*
*страсць,*
*любоў,*
*Каханне*
*ці шчаслівае вар'яцтва?!*
*Цябе няма,*
*а знакі ўсё сцвярджаюць.*



### *АРЫТМІЧНЫ ПЛАГІЯТ З МІКОЛЫ КУПРЭЕВА*

*Пасля доўгіх жыццёвых вандровак*
*Прыраслі да зямлі яго ногі.*
*Ён жа мала таму здзівіўся,*
*А падгроб да сябе кульбаку,*
*І — пайшоў...*
*да свайго дзяцінства...*

*...І калі падымаўся ўгору,*
*То міжволі губляў апору,*
*І хапаўся за аблачыну,*
*Каб не ўпасці на алычыну,*
*Што кусціцца на ссохлым кветніку*
*Пад мансардай.*
*Жылі удвух*
*З матылём — па духу равеснікі —*
*Покуль той не выпусціў дух,*
*Разбіваючы шыбу ваконную...*

*Ёсць дарожны крылаты плашч*
*І здарожанаму падушка,*
*А натхнення няма,*
*хоць плач, —*
*Душна...*
*І шкада, што паэт Прэвер*
*Не пісаў беларускай мовай.*
*Перакласці б яго цяпер*
*На наш говар...*

*Ды дарма.*
*І сваё не йдзе,*
*Не да песні...*
*Галава, як чыгун, гудзе*
*Пасля пенсіі...*

*Пахмяліцца б,*
*ды вочы — у столь*
*Ці ў вакно, што на лес глядзіцца...*
*Сэнс жыцця раз'ядае соль...*
*Растварыцца б,*
*І ў асадак выпасці СЛОВАМ,*
*Што палічаць вершам няўзнак...*
*Свет таптаць не вальяжным снобам —*
*Жыць пад небам,*
*нібы пад нёбам*
*Неўзаконены мяккі знак...*
*Напляваць! што пустая торба*
*Не расце,*
*як душа дабром!*
*Мы жывыя яшчэ.*
*І — добра.*
*Нам адмеранае дап'ём...*

---

# КАЛІЗІІ НОВАЕЎРАПЕЙСКАГА МЫСЛЕННЯ

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5)*

гляданай праблемы, у відалі якога і класічны і сучасны еўрапейскі рацыяналізм ёсць маніфестацыі адзінай метафізічнай пазіцыі, якая ў сваю чаргу ўгрунтавана ў культуры пэўнага тыпу, які дзеля зручнасці будзем далей называць «новаеўрапейскім», рызыкнуўшы пайсці тут уразрэз з агульнапрынятым словаўжываннем. Іначай кажучы, паспрабуем паглядзець на калізіі новаеўрапейскага розуму з гледзішча культуралогіі.

Здаецца, не склала б вялікіх складанасцяў прад'яўленне менш ці больш поўнага набору таксонаў, якія праілюстравалі б апраўданасць збліжэння «класічнага» і «сучаснага» рацыяналізмаў у перспектыве культуралагічнай тыпалогіі. Напрыклад, новаеўрапейскі па сутнасці характар згаданай вышэй намі «фундаментальнай апазіцыі» можа быць угледжаны ў яўнай карэлятыўнасці сучаснай дыхатаміі «прыродазнаўчае» — «гуманітарнае» (і яе дэрыватаў, што ўваходзяць у прыведзеныя сімвалічныя шэрагі) і класічнай дыхатаміі, што аднадушна прызнаецца за цэнтральны канстытутыўны элемент новаеўрапейскага светагляду, а менавіта «аб'ект» — «суб'ект» дыхатаміі.

Лічыцца, што ў першым выпадку галоўнае адрозненне палягае ў тым, што ў прыродазнаўчых навуках, як і наогул там, дзе спраўджваецца іх спазнавальны ідэал, прадметам з'яўляецца прырода, «аб'ектыўнасць», тады як у навуках гуманітарных (часам тут пратэстуюць супраць самога ўжывання паняцця «навука») прадметам становіцца сам суб'ект або, больш шырока трактаваная, «суб'ектыўнасць». Відавочна, што сучасная дыхатамія прынцыпова аказваецца магчымай адно на трывалым грунце класічнай дыхатаміі «аб'екта» і «суб'екта» і з'яўляецца даволі трывіяльнай маніфестацыяй новаеўрапейскай метафізічнай пазіцыі.

П.П.Гайдэнка слушна бачыць у сённяшняй абвостранай увазе да самой праблемы рацыянальнасці праявы як незадаволенасці абсалютызацыяй «рэлятывізму» і «плюралізму» ў сферы спазнання, гэтак і немагчымасці «цалкам растлумачыць, г.зн. «вывесці» навуку (і асабліва яе прадмет — прыроду) з культуры», немагчымасці «пераадолець дуалізм гэтых дзвюх сфер», гэтаксама як і радыкальную разведзенасць прыродазнаўчых і гуманітарных навук. Прычына, з якой, напрыклад, герменеўтыка наўрад ці здольная сёння стацца універсальным чыннікам, што дазволіў бы пераадолець зазначаны дуалізм, карэніцца, на думку даследчыцы, усё ў той жа новаеўрапейскай культурнай традыцыі.

Маючы даволі працяглую перадгісторыю, гэта традыцыя завяршае свой «прэнатальны перыяд» тэарэтычным самаасэнсаваннем і самавыяўленнем у трансцэндэнталізме Дэкарта, адной з сутнасных рысаў якога сталася раздзяленне субстанцыі на «працяглую» і «мысліўную». Гэтым самым была легітымізавана адна з «заваёў» эксперыментальна-матэматычнага прыродазнаўства XVII — XVIII стст. — элімінаванне якой-колечы тэлеалогіі з навук аб прыродзе і замацаванне апошняй за сферай духу. Паўсталы ў выніку гэтага прынцыповы дуалізм фізікі і метафізікі не можа быць, такім чынам, інтэрпрэтаваны адно з гледзішча нейкага ідэалагічнага кампрамісу (напрыклад, навукі і рэлігіі). Як слушна, на нашу думку, зазначае П.П.Гайдэнка: «Тып рацыянальнасці, што склаўся ў XVII ст., немагчыма рэканструяваць, не беручы пад увагу як прыродазнаўства, так і метафізіку гэтага перыяду, бо адно ўзятыя разам яны даюць сэнсавы небакрай спосабу мыслення, што тады быў фарміраваўся. З прыроды было цалкам выдалена і аднесена да сферы духу тое, што кладзе граніцу механічнага руху, які не ведае «граніцы», «канца», «мэты» — гэта, уласна, і знайшло свой выраз у законе інерцыі — фундаментальным прынцыпе механікі».

У эпоху Асветы была прадпрынята спроба парушыць усталяваную раўнавагу і скасаваць дуалізм фізікі і метафізікі на карысць першай, якая на той час рэпрэзентавалася механікай. Гэта спроба магла б увянчацца поспехам толькі пры адной умове: калі б разгляданы дуалізм меў выпадковы, неіснасны для новаеўрапейскай культуры характар. У нашым выпадку гэта зусім не так. Механістычны «выклік» сваёй разбуральнай вастрынёй быў скіраваны акурат на тое, што ўжо сталася падмуркам новай традыцыі, і нічога апроч сіл процідзеяння выклікаць не мог. Новая традыцыя ўжо станавілася гарантам устойлівасці новаеўрапейскага грамадства і раўнавага павінна была быць адноўлена. Гэтак і сталася.

Кант узнавіў раўнавагу коштам падзелу сфер датасоўнасці тэарэтычнага і практычнага розуму на навуку і этыку. «Гэткім чынам, — рэзюмуе свой кароткі агляд гісторыі новаеўрапейскага рацыяналізму П.П.Гайдэнка, — з канца XVIII стагоддзя на месца дуалізму фізікі і метафізікі паўстае дуалізм навукі і этыкі, свету прыроды і свету свабоды, які перарастае ў XIX стагоддзі ў дуалізм навук аб прыродзе і навук аб культуры. У неакантыянстве былі процістаўлены адно аднаму свет існага і свет належнага, — у першым пануюць законы неабходнасці, вывучаныя навукай, другі канстытуецца з дапамогай каштоўнасцяў, што выступаюць за мэты чалавечай дзейнасці. У гістарызме і філасофскай герменеўтыцы, што вырастае з яго, развіццё якой звязана з працамі В.Дыльтэя, а пазней — з фенаменалагічнай школай, гэты ж дуалізм выражаецца ў процістаўленні метаду тлумачэння ў прыродазнаўстве метаду разумення ў гуманітарных навуках. Тлумачэнне па-ранейшаму выключае паняцце мэты і прынцып мэтазгоднасці, тады як разуменне базіруецца акурат на гэтым прынцыпе».

Гэткім чынам статус-кво традыцый новаеўрапейскага рацыяналізму быў XX стагоддзем надзейна ахаваны. Зыходная дыхатамія суб'екта і аб'екта, забяспечаная самавідочнасцю картэзіянскага cogito ergo sum, сталася некалі тым «перша-падзелам» (як цікава абыгрываюцца ў гэтым выпадку этымалагічны, касмалагічны, дыялектычны, лагічны, герменеўтычны ды інш. планы аднога з упадабаных за гэта ўлюбёных слоў Гегеля: urtheil), што быў прызначаны структураваць новы Космас еўрапейскай культуры і, як сапраўдны касмалагічны прэцэндэнт, меў надалей быць узнаўляным у кожным новым і новым «рытуальным» дзеянні мыслення, слова і справы. Функцыю захавання статус-кво праз рэпрадукаванне прэцэдэнта ў гэтай новай традыцыі мелі выконваць так званыя «адукаваныя», асабліва навукоўцы і філосафы, апошнія — шляхам адмысловага «ўпадання ў стан свядомасці», як настойліва сцвярджаў М.К.Мамардашвілі. Рэпрадукцыйныя магчымасці падобных «упаданняў» гарантуюцца, на думку таго ж аўтара, картэзіянскім тэзісам пра «непарыўнае стварэнне»: узнаўленне субстанцыі патрабуе не меншых высілкаў за яе стварэнне.

Ужо ажно тое, што ўзнаўленне «картэзіянскага» прэцэдэнта патрабуе валодання адмысловымі разнастайнымі «тэхнікамі ўпадання» (паводле выразу М.К.Мамардашвілі), нагадвае на спрыроджаную ненатуральнасць, непрыроднасць і ці не, скажам мы, несапраўднасць дасяганых гэткім чынам «станаў свядомасці», але па нейкіх прычынах прыманых якраз за натуральныя. Каб апошнія сапраўды сталіся натуральнымі, розум, свядомасць — наогул усе кагнітыўныя структуры — павінны быць папярэдне на пэўны лад выкшталцаваны, асвечаны, адукаваны (параўн. рус. *образованы*). Менавіта ў інстытуце адукацыі новаеўрапейская культура вынайшла надзейнае начыненне пашыранага самаўзнаўлення. Роля эпохі Асветніцтва не можа быць у гэтым стасунку пераацэнена. Тым болей не можа тут быць пераацэнена вынаходства Гутэнберга. Гадамэр з уласцівай яму чуйнасцю паставіўся да феномена адукацыі, але, верны сваёй дуалістычнай зыходняй пазіцыі, перавытлумачыў яго адно на карысць «гуманітарных навук».

Што даваў для традыцыі, для грамадства гэты новы інстытут? Перадусім — вось гэту буйнамаштабную планавую рэструктурацыю ўсіх кагнітыўных структур свядомасці, у выніку якой рэчы, уся рэчаіснасць павінны былі ўспрымацца на новаеўрапейскі лад. Як зазначае М.К.Мамардашвілі: «Успрымаць свет навукова — зусім не натуральна, а ўмоўна ў тым сэнсе, што гэта мяркуе нейкія прадумовы, якія самыя яшчэ павінны ўзнікнуць або быць чалавекам здзейснены».

ЗНО

Проза

Томіслаў ЛОНГІНАВІЧ

# БЯСКОНЦАСЦЬ ПАВОДЛЕ БАГУМІЛА ЗІЯДА

У асвячоных творах хрысціянскай царквы пакінута без увагі (зласліўцы даводзяць: гэта наўмысна хавалася), колькі вернікаў паддавалася клікунству пра канец свету на зыходзе тысячы гадоў пасля смерці Хрыстовай. Ісціну пра людзей, што кідаліся з высокіх абрываў ці вежаў, тапіліся ў рачных вірах ды ў акіянскіх бяздоннях, атручваліся мандагорай і мухаморамі, ведаюць толькі знаёмыя з апокрыфамі. Большасць аматараў мудрасці Захаду абмінае ўвагаю дзіўны лёс Багуміла Зіяда — асобы, якая значна паўплывала на распаўсюджванне апакаліптычных вестак у еўрапейскіх асяродках.

Дакладна месца і час нараджэння нашага героя невядомыя. У запісах мусульманскіх гісторыкаў Багуміл Зіяд пазначаны як Бег Зіяд, першы з людзей, што прынялі магутнае вучэнне Хасан-і-Сабаха, заснавальніка благой славы секты гашышэнаў. Лічыцца, што, паблукаўшы сем гадоў па Сярэднім Усходзе, Зіяд трапіў у Каір. Ісмаэліцкія крыніцы сцвярджаюць, нібы сам Алах вызначыў ягоны шлях — ад роднай мясціны ў Афганістане і да лёсавызначальнай сустрэчы ў Каіры, калі ім пачала кіраваць таямнічая сіла знішчэння.

З Сабахам ён знаёміцца неяк зорным вечарам на ўзбярэжжы Ніла, дзе стаяў, вагаючыся, варта ці не зрабіць праходку ў даліну пірамід. Затрымлівала нейкая невядомая сіла. Узнікла падазрэнне, што гэта дух пагашанага святла, магутны Шайтан. Якраз у той самы момант з'яўляецца разам з чорным еўнухам Абдулахам Хасан-і-Сабах. Слова за слова — і Хасан запрашае іншаземца на ноч у свой гарэм. Сіла, якая перад гэтым няволіла Зіяда, нібыта адпусціла, і вандроўнік прымае запрашэнне будучага прарока.

Пад канец шчодрай вячэры ў палацы еўнух прыносіць залатыя наргілы, кальяны. На вачах у гаспадара з госцем закладае ў іх Масары-Шарыф — гашыш, выраблены са смалы найдалікатнейшых афганскіх канопляў. Ужо пасля першых зацяжак у Зіяда заплюшчваюцца вочы і ўзнікае адчуванне дабрастотнасці, болагасці. Тым часам гаспадар пачынае штукарыць з госцем. Загадвае лёкаям, каб чужынца ў стане салодкай дрымоты перанеслі ў гарэмны сад, размешчаны з тылу палаца. Потым еўнух з дапамогай гіпнозу пераконвае Зіяда, што той апынуўся ў раі прарока Мухамеда. Малады вандроўнік чуе там плёскат фантанаў і спевы птушак з індыйскіх джунгляў, замілоўваецца рознакветнымі раслінамі, якія ўсцілаюць фарфорава-нефрытнае тло, і пачуваецца так, быццам бы цела ягонае зусім страціла вагу.



Хасан дае знак музыкам. Пад прыцішаную мелодыю з сярэдзінных пакояў выходзяць аголеныя кадуны. Узбуджальна рухаючыся, яны паступова пераходзяць да мілавання. Зіяд спазнае напраўду райскія ўцехі. Ніводнае жаданне абмінутым не застаецца. Нарэшце, здаволіўшыся ва ўсім, госць правальваецца ў нейкі дзівосны паўсон. На дамоўлены знак Хасанавы прыслужнікі выносяць яго з храма. Прачынаецца Зіяд упэўнены, што зведаў слодыч існавання на тым свеце. Ён кідаецца ў ногі гаспадару. А Хасан, больш чым шчаслівы ў ролі Вялікага Майстра, абяцае, што наведванне раю можна і паўтарыць, калі госць цалкам падпарадкуецца ягонай волі. Знаходзячыся ў эйфарыі, Зіяд прысягае на вернасць новаму ўладару. Адразу ж праводзіцца рытуальнае пасвячэнне — пад левай лапаткай Зіяду вытатуіроўваюць зорку і паўмесяц.

Пасля трохмесячнага навучання, як абыходзіцца са зброяй, Хасан забірае ў Зіяда шаблю і біч, загадвае апрануцца як вандроўны дэрвіш і рушаць у напрамку Канстанцінопаля. Няхай вывучыць там хоць адну з гяурскіх моў. Трэба адшукаць тайныя суполкі ў няверных, а тады мэта — кіраваць у паўночна-заходні бок, ажно пакуль не дабярэцца туды, дзе жыве іхні правадыр. Варта скарыстаць і падман, і розныя хітрыкі, назваўшыся мудрацом з Усходу, каб зблізіцца з ягонай світаю. А як толькі выдасца зручны момант, прасіць у Алаха сілы і наносіць высокаму ворагу смяротны ўдар.

Зіяд згаджаецца без разваг. Тады яны двое ідуць да збройні па прыладу справядлівасці. Спыняюцца каля нажоў з лёзамі ў выглядзе полымя. Хасан прапаноўвае





адзін, тронак якога з драўніны ружы. Ды такі матэрыял расплюшчваецца ў магутнай лапе Звіядавай, нібыта пухір прывіду. Напалоханыя, што гэта благі знак, змоўшчыкі выбіраюць толькі што дасланы з Індыі кінжал, дзяржак якога з цяжкай і трывалай цікавіны, тамтэйшага дуба. Не адкладаючы, таго самага вечара Зіяд адпраўляецца ў канавую дарогу.

За паўгода нялёгкай вандроўкі ён дамогся Канстанцінопаля. Пра яго знаходжанне ў горадзе на Басфоры звестак зусім мала. Бадай таму, што не прайшла марна Хасан-і-Сабахава навука заставацца непрыкметным. Ды і Зіяду ўдаецца такі наладзіць сувязі з сектаю гностыкаў Фібіяніта, што дае надзею выведаць больш пра тайныя асяродкі хрысціянскага свету. Трапляе ён у секту дзякуючы жанчыне, што, як даводзяць атаманскія крыніцы, насіла імя найвялікшай багіні гностыкаў. Паводле Ірэнея, звалася яна Барбела, а на жыццё зарабляла тым, што прадавала каханне.

Ірэней з грэблівасцю апісвае, як Барбела выкарыстоўвала сваё цела ў якасці нібыта багамі вызначанага знадаббя, пры гэтым яшчэ сябе лічыла ці не роўнай Дзеве Марыі. Гэтая чарадзейка адной ночы выдае Зіяду сакрэт эліксіру жыцця: падмаўляе, каб з'еў сваё семя, перамешанае з сокамі яе цела. Паверыўшы, што здабыў і неабмежаваную моц, і вечнае жыццё, малады змагар бярэцца за вывучэнне твораў грэчаскіх ды габрэйскіх алхімікаў, што адпавядала і патрабаванням ягонага настаўніка. Перад ім адкрываецца свет ведаў і святла, падобны да тых забароненых уцех, якія давялося спазнаць у райскім садзе Хасан-і-Сабаха. Барбела ж тым часам вяла ўсё гаворкі пра вялікую змяю, якая асляпляе ўсе душы, калі яны ў стане недасведчанасці, зжарае іх, а потым зноў выводзіць у аблічча свіней ды іншай жывёлы.

Зіяд пераймае ад гностыкаў тайныя веды, але намерваецца скарыстоўваць іх на свой, знішчальніцкі, манер. Праз Фібіяніта ён атрымлівае магчымасць перабрацца на поўнач. У рыззі асвячонага вар'ята ідзе па Балканах. Лічыцца, што ў Македоніі атрымлівае хроснае імя. Прыведзены да Самуіла, ён на словах адрокся ад прызнання толькі Мухамеда, прарока вайны. Прыкінуўся, што жадае перайсці ў веру прарока любові, што спрыяе канцу свету матэрыяльнага і ўваскрашэння вечна жывога духоўнага свету. Пасвячоныя далі яму імя Багуміл, свядома ўжыўшы найменне секты, каб запэўніць нявернага ў моцы боскай любові. У надзеі дамагчыся самага цэнтра хрысціянскай сілы і там выканаць святы абавязак, Багуміл Зіяд сваё цела аддае пасвячоным з хрысціян ва ўзаемнае пакладненне цялеснай сутнасці. Праз целы сваё і іхнія змагар спасцігае духоўны вопыт, які забяспечвае яму спакойнае існаванне сярод няверных. Упэўненыя, што мусульманіна ўжо перацягнулі ў сваю веру, багумілы, адпаведна евангеллю ад Фамы, вяструюць надыходзячы канец свету. Афіцыйнай царкве яны ставяць у віну, што яна давяла свет да пагібелі, бессаромна служачы ўладару матэрыяльнага. Зіяд падтрымлівае іх у адмаўленні рэальнасці і заклікае пранікаць у нябачныя сферы задавальненняў, а таксама мовы. Паверыўшы, што маюць справу з вестуном мудрасці, кіраўнікі секты аддаюць яму Елену. А тая, з аблічам анёла чысціні, ахвяруе свой дух чарам цялеснага натхнення.

Ад жанчыны-святаркі Багуміл Зіяд выведвае план аховы Самуілавай крэпасці. Глыбокай ноччу пранікае ў каралеўскую апачывальню і дастае з пояса кінжал. Ужо занёсшы лязо справядлівасці, каб усадзіць яго Самуілу ў горла, адчувае сябе ва ўладзе той самай сілы, што не пускала яго ў даліну пірамід. Гэтага разу, упэўнены, што стрымлівае яго не Шайтан і не Алах, Багуміл Зіяд хавае кінжал назад у пояс і знікае ў начной цемры. Забраўшы Елену, ён уцякае на ўсход, відавочна, з намерам асесці ў сярэднім Афганістане, на радзіме.

Ірэней сцвярджае, што Зіяд не быў па ўсіх правілах уведзены ў секту гашышэнаў, паколькі ніхто не засведчыў такога выпадку, каб які-небудзь чалавек не выканаў загаду жахлівага Хасан-і-Сабаха. Ды хоць мусульманскія аўтары, асабліва Хадад і ягоная школа адназначна выстаўляюць Багуміла Зіяда першым адэптам культу знішчэння, факт тое, што ў гісторыі не зафіксавана ніводнае забойства, якое магло б яму прыпісвацца. Амаль усе крыніцы пацвярджаюць, што забойства Барбелы, здзейсненае адзінаццаць гадоў пасля таго, як Зіяд пакінуў Канстанцінопаль — справа рук



турка-вар'ята, учыненая ў пасцелі, на вяршыні любаярлівасці. Роля Зіяда ў асноўным зводзіцца да ўплыву на распаўсюджванне вестак пра канец свету, што захлёствалі Еўропу перад тысячным годам.

Далейшы лёс Багуміла Зіяда — прадмет пустых домневаў і здагадак. Раю на зямлі яму ўсё менела, а пасля таго як уцякла Елена, і зусім не стала. Апроч некалькіх запісаў па-тыбецку пра ягоную ўзвышаную смерць пісьмовых сведчанняў не засталося. Найбольш верагоднай можа быць версія, паводле якой Елена ўцякла, калі Зіяд аслабеў, уціхаміраўся і паверыў у яе зямное каханне. Няўдалы забойца, відаць, перажываў і спавядаўся свайму богу, каючыся, што ў вырашальны момант не здолеў выканаць абяцання, дадзенага Хасан-і-Сабаху. Ён вяртаецца ў Афганістан, але ў родных мясцінах застае мангольскую конніцу. Хаваецца па гарах, потым накіроўваецца ў Індыю. Пасля доўгіх блуканняў апынаецца перад храмам у Бенарэсе. Бачыць там трох голенагаловых манахаў і адчувае прысутнасць той самай сілы, якая перашкодзіла яму адабраць у чалавека жыццё.

Усё яшчэ ў ліхаманкавай пагоні за самім сабою, Багуміл Зіяд разумее, што ад спакусаў багацця і гвалту яго ўвесь час ахіляе сіла суадчування з іншымі. Ён пазнае памыснасць усмешкі Буды і ягоную моц на тварах манахаў. Падае ніц перад імі, плача доўга, няўцешна. Будысты прымаюць яго ў сваю сангху, пераканаўшыся, што вандроўнікавы веды па тантры і алхіміі роўныя іхнім. Разам накіроўваюцца яны на Тыбет, каб удзельнічаць у пошуках новага Далай Ламы. З той пары і да проста апісанага моманту Зіядавай смерці праходзіць каля шаснаццаці гадоў. Найхутчэй, якраз у гэты, апошні, перыяд свайго жыцця Багуміл Зіяд спасціг сутнасць жаночага элемента свету, якая ўпершыню адкрылася яму праз гашыш і любоўныя ўцехі ў садзе Хасан-і-Сабаха.

Пры адной з апошніх сваіх медытацый Зіяд чуе, як Калі Ма, трасучы вянком з людскіх чарапоў на шыі, прамаўляе словы апошняга жаху. І ўжо праз дзень Багуміл Зіяд ідзе да кіраўніка ламасэрыі і заяўляе, што гатовы пераўзысці існасць цялесную. Манахі адводзяць яго ў келлю-самотніцу, дзе пасля развітання са светам самсары ён патанае ў глыбокую медытацыю. Праз тры дні галоўнік ламасэрыі адмыкае келлю, падыходзіць да здранцвелага Зіяда і ўтыкае вострую дзіду ў размяшчэнне восьмай чакры на самым версе чэрапа. Тонучы ў зіхотка-белае чыстае святло, Зіяд пакідае цела, у той час як перад вачыма разгортваецца ўсё жыццё.

Цела Зіядава заносяць на вяршыню гары і дзёрстаюць нажамі на кавалкі. Сцярвятнікі пажыраюць яго хутка, што ў тыбецкіх кнігах занатоўваецца як добры знак дзеля наступнай Зіядавай інкарнацыі. Разам з тым ён стае белым святлом, якое назаўжды злучана з Калі Ма ў цішы нябачнай бясконцасці. Без жадання новых целаў Багуміл Зіяд назаўжды застаецца па той бок ланцуга нараджэнняў і паміранняў.

З сербскахарвацкай мовы пераклаў Іван ЧАРОТА.

Катэдра

Мікалай КРУКОЎСКІ,
доктар філасофскіх навук

# ЦІ ЎРАТУЕ НАС ПРЫГАЖОСЦЬ?



Можна ўявіць сабе іранічную ўхмылку чытача. Гэта зараз, пры нашых цяперашніх абставінах успамінаць тую славутую фразу нашага вялікага земляка Дастаеўскага? Тут хутчэй прыйдуць у галаву зусім іншыя словы, сказаныя неяк адным старцам з Опцінай пустэльні Канстанціну Лявонцьеву: зараз самую прыгажосць ратаваць трэба! Асабліва ж з'едліва хмыкнуць некаторыя нашы дзеячы з урада і пракамуністычнага Вярхоўнага Савета, што даўно ўжо не без цынічнага крывадушша заклікаюць спярша накарміць народ, а пасля ўжо пра ўсялякі там сацкультбыт думаць. Што тут возьмеш з прававерных марксістаў-ленінцаў: «Экономика прежде всего, красота — лишь надстроечная категория!».

Сапраўды, і ў недалёкім мінулым прыгажосць у нас цанілася толькі ў якасці нейкага гарніру. А цяпер тым больш. Нават курсы эстэтыкі ва універсітэтах ды іншых навучальных установах, што так ці гэтак, але чыталіся там, зараз паціху пачынаюць скарачацца. А ўжо рыначная эканоміка, куды зноў-такі перакінулася мноства ўсё тых жа марксістаў-ленінцаў, пагражае канчаткова прыкончыць прыгажосць, зрабіўшы прадажнай яе, нібы прастытутку. Сумнае гэта параўнанне заўсёды, між іншым, прыходзіць на розум, калі глядзіш на карціны, што нашы мастакі-бедалагі змушаны выстаўляць на праспекце для продажу. Карціны тыя гэтак жа густа і з такой жа аднастайнасцю расфарбаваны і напамаджаны, як і дзяўчаты, што круцяцца вечарамі каля гатэля «Юбілейны». А на прафесійных выставах другая бяда: прыгажосць там, як кажуць, і ўвогуле не начавала. Там разлік ужо зусім на другія густы, і замест прыгажосці там даўно ўжо пануе яе супраціўніца — брыдота. Але і тая спрабуе ўхмыляцца да гледача вуглавата перакошанай з трупнымі плямамі падабізнаю твару ў надзеі сыйсці за прыгажосць або хоць проста прыйсціся яму даспадобы. Заявіў жа неяк адзін маскоўскі крытык у нас на падобнай выставе, грасіруючы па-сталічнаму: «Смотрите, как это красиво!». Гледачы толькі дзіву даваліся, ці то ён сам ужо такі дурны і сляпы, што бачыць зусім не тое, ці другіх робіць дурнямі, як у той казцы ў Андэрсэна, ці наогул ува ўсіх у нас, як у Расіі кажуць, «крыша паехала». Але ж няёмка паказацца перад іншымі ў невыгодным святле, вось і прыходзілася падтакваць, хоць і чакаючы ў душы на тое дзіця, што нарэшце скажа: кароль жа голы!

Справа з прыгажосцю, аднак, не такая ўжо і простая. Прыгажосць сапраўды ў многім залежыць і ад асабістага густу. Нездарма некалі Вальтэр з уласцівай яму парадаксальнасцю стылю пісаў, што і рапуха лічыць свайго рапушынага кавалера прыгожым. Мы ж, аднак, людзі, а не рапухі, і павінна ўсё-ткі існаваць нейкая агульная для ўсіх нас мера, у тым ліку і мера прыгажосці. Прыгажосць, як і яе эстэтычны антыпод брыдота, мае аб'ектыўна-суб'ектыўны характар і, значыць, не так ужо моцна залежыць ад таго, паехала чыя-небудзь «крыша» ці не. Гэта можа быць сказана і пра сучаснасць, калі сапраўды часам думаецца, што прыгажосць назаўсёды пакінула наш грэшны свет. Ды і не толькі прыгажосць. Фрыдрых Ніцшэ яшчэ ў другой палове мінулага стагоддзя канстатаваў не без зларадства, што і Бог памёр.

Цяжка, аднак, гаварыць зараз пра прыгажосць і наогул эстэтыку прафесійнаю мовай, настолькі здратавана яна была гойсаннем афіцыйных марксісцка-ленінскіх партыйных эстэтыкаў. Ідэал, гармонія, рэальнае і ідэальнае, форма і змест, агульнае і асаблівае, пачуццёвае і рацыянальнае — усе гэтыя словы так замусоліліся адэптамі сацрэалістычнай навукі аб прыгожым, што і ўжываць іх не хочацца, хоць яны, тыя словы, і ні пры чым. Паявіліся ва ўжыванні яны задоўга яшчэ да Гегеля, а ў Гегелеўскай эстэтыцы набылі адточаны тэрміналагічны сэнс. Як і самі яго славутыя «Лекцыі па эстэтыцы» заставаліся ў нас, ды й цяпер пакуль яшчэ застаюцца, адзінай магутнай скалой сярод мутна-бурлівага акіяна навукападобнае балбатні. На скале той, між іншым, знаходзіў сабе некалі ратаўнічы прытулак і аўтар гэтых радкоў.

Дык вось, гаворачы моваю добрага старога Гегеля, прыгажосць узнікае ў прадмеце нашае ацэнкі, ці, каб ужо быць зусім дакладным, у аб'екце эстэтычнае паставы, толькі тады, калі ў ім яго форма і змест, рэальнае і ідэальнае, асаблівае і агульнае, з'ява і сутнасць утвараюць паміж сабою гарманічнае адзінства (у самога Гегеля нават тоеснасць). Калі ў ролі такога аб'екта выступае, напрыклад, чалавек, то ён абавязкова павінен уяўляць сабою гармонію душы і цела, розуму і пачуцця, сацыяльнага і жывёльнага, альтруістычнага і эгаістычнага. І ў самім ацэншчыку, ці суб'екце эстэтычнай паставы, павінна мець месца такая ж гармонія паміж яго розумам і пачуццём, светапоглядам і сузіраннем. Яшчэ ў большай ступені адносіцца гэта да мастака як стваральніка прыгажосці. Зрэшты, Гегель тлумачыў усё гэта нават прасцей: прыгожым з'яўляецца той прадмет, у якім праз яго рэчыўную, матэрыяльную абалонку «прасвечвае» ідэя, дух, Бог.

Няхай мне даруе чытач за некалькі акадэмічны стыль гэтага абзаца, але ў ім заключаецца ўся, як казалі раней, квінтэсенцыя эстэтыкі і прыгажосці. І няхай не абвінавачвае мяне заадно ў схематызме. Схематычна паказанай можа быць ісціна толькі лагічная, а логіка, як вядома, ёсць галоўны інструмент розуму, дарма што Леў Шастоў і параўноўваў логіку з кайданамі. Без удзелу розуму немагчыма зразумець і прыроду прыгожага. Калі ўспрымаць яго толькі тым, што М.Бахцін называў эўфемістычна «нізам», што, дарэчы, цяпер пераважна і робіцца, то гэта ўжо будзе не прыгожае, а нешта зусім другое. Прыгажосць успрымаецца і галавой, а не толькі аднымі геніталіямі. Словам, логіка прыгажосці існуе.

Больш таго, гэта не проста логіка, а логіка дыялектычная. І не трэба, калі ласка, палохацца такога выразу. Дыялектычная логіка не ёсць толькі параджэнне марксізму-ленінізму і дыялектычнага матэрыялізму, як пра тое пішуць нярэдка радыкальна настроеныя публіцысты. Дыялектычная логіка, а дакладней яе можна было б называць проста дыялектыкай, узнікла яшчэ ў антычныя часы, і да яе з найвялікшай павагай адносіліся лепшыя розумы чалавецтва, такія, як Геракліт, Платон, Кант, Гегель, Салаўёў, Фларэнскі, Ясперс, Лосеў і многія іншыя. Марксізм-ленінізм, дарэчы, таму і пацярпеў гістарычны крах, што не ўтрымаўся на пазіцыях дыялектыкі, ператварыўшыся, асабліва пад ленінскім пяром, у нешта дагматычна аднабаковае і тупое, не кажучы ўжо пра сталінскія «гениальные труды». Ды і ў самога Маркса, нягледзячы на заслужанае ім мейсца ў гісторыі філасофіі, вернасці гегелеўскай дыялектыцы хапіла, як падсмейваўся яшчэ С.Булгакаў, толькі на першую главу «Капітала».

Дыялектыка мае вельмі шырокі, універсальны, я б сказаў, дыяпазон стасавання. Але самае поўнае і выразлівае ўцелясненне дыялектыкі мы знаходзім у эстэтыцы і яе катэгорыях, у прыгожым у першую чаргу. Калі ісціна ў дыялектычнай логіцы выступае як адзінства процілеглых сцверджанняў, г.зн., згодна прынцыпу не «або-або», а «і-і» (гэта сталі разумець, між іншым, зараз і многія палітыкі, аддаючы перавагу кансенсусу і цэнтрызму перад экстрэмісцкімі крайнасцямі), калі ў эканоміцы, як мы бачылі, выразна назіраецца імкненне да аналагічнага адзінства ў выглядзе раўнавагі прапановы і попыту, працоўна-затратнай і спажывецкай вартасцяў, то ў эстэтычнай катэгорыі прыгожага яно выступае як тое, што яшчэ старажытныя грэкі акрэслівалі як гармонію, і перш за ўсё гармонію духу і матэрыі, душы і цела, розуму і пачуцця, поліса і індывіда. Гармонія, як вядома, вельмі шырокае па сэнсе слова. У Гамэра яно абазначала скабу, якой змацоўваліся дошкі ў кадлубе карабля. Піфагарэйцы называлі гармоніяй таямнічасуладную музыку нябесных сфераў, невыказальна прыгожую, хоць і нячутную звычайнаму вуху. Але ва ўсіх шматлікіх сваіх іпастасях гэта слова захоўвала той асноўны яго сэнс, што нададзены быў яму Гераклітам: адзінства процілегласцяў. І ў гэтым сваім пастаянным сэнсе яно цесна звязана з паняццем не толькі прыгажосці, але і дасканаласці як вышэйшай ступені існавання.

Таму і прыгажосць у сваю чаргу заўсёды выступае перад намі не толькі як пэўная эстэтычная прыправа або гарнір да чагосьці куды больш важнага, але як наогул вышэйшая ступень дасканаласці і, значыць, як нешта само па сабе найбольш важнае і каштоўнае для нас, як менавіта вышэйшая якасць жыцця ў цэлым, жыцця і духоўнага і матэрыяльнага. Больш таго, гэта вышэйшая якасць быцця наогул, як пісаў М.Бярдзяеў. Вось чаму Чарнышэўскі акрэсліваў у свой час прыгожае як жыццё, якое ёсць і якім яно павінна быць, а Дастаеўскі горача спадзяваўся, што толькі прыгажосць і ўратуе свет. Менавіта ж таму прыгажосць выходзіць далёка за рамкі толькі эстэтычных каштоўнасцяў, што рэалізуецца пераважна ў сферы мастацтва. Яна адыгрывае ў жыцці чалавечага грамадства нешта накшталт своеасаблівага тэрмометра, які паказвае, наколькі нармальнае і здаровае гэта жыццё ў цэлым, паказвае амаль што з матэматычнай дакладнасцю, і, што самае галоўнае, паказвае аб'ектыўна, рэальна, а не па чыёмусьці суб'ектыўнаму самаадчуванню. У самаадчуванні можна да ўсяго прывыкнуць і, дарэчы, так сапсаваць свой густ, што прыгожай здасца і самая пачварная брыдота, як у выпадку з памянёным маскоўскім крытыкам. Праўда, quod Licet Jovi non Licet bovi і сапсаванасцю або дрэннай прывычкай можна было б растлумачыць паводзіны многіх, на жаль, маладых людзей, што равуць ад захаплення, слухаючы аглушальную рок-брыдоту, або смакуюць палотны, намаляваныя граззю, разведзенай на сперме. Але калі тое ж робіць масціты крытык, які ведае, што такое Моцарт і Рафаэль, то ў мяне, грэшнага, міжвольна закрадваецца нядобрая думка, а ці не робіцца гэта знарок.

Вось такою выступае перад намі прыгажосць, так бы мовіць, у ідэале. А цяпер глянем, як абстаяць з ёю справы ў рэальным, акаляючым нас зараз жыцці... Мой ты Божа! Жыццё гэта настолькі далёкае ад прыгажосці, што і гаварыць пра яе няёмка, а тым болей яшчэ пра гармонію. Шмат гадоў таму, займаючыся эстэтыкай чалавека і канструюючы тэарэтычна ў кнізе «Логіка прыгажосці» самыя розныя эстэтычныя яго тыпы, пачынаючы з прыгожага і канчаючы брыдкім, удалося тады многае з сённяшняга прадбачыць. Але ў колькасным, так бы мовіць, сэнсе рэчаіснасць перавысіла самыя змрочныя і панурыя прадказанні. Я пісаў тады, напрыклад, што ў перыяд заняпаду пэўнай грамадскай фармацыі (наўмысная абстрактнасць выкладу служыла добрым эзопавым прыёмам) першапачаткова нармальны, цэласны чалавек распадаецца на жывёльна-сексуальнага эгаіста і абстрактна-альтруістычнага містыка. Але каб гэты эгаіст гвалціў уласную шасцігадовую дачушку або каб па тэлебачанні ўсур'ёз паказваліся бязглуздыя парады дамарошчаных калдуноў — такое, прызнацца, і ў галаву неяк не прыходзіла. Проста аглушальным аказаўся дыяпазон дысгарманічнай палярызацыі і распаду нашага шматпакутнага грамадства і яшчэ большага яго пакутніка — чалавека. Жыццёвая рэальнасць, што й казаць, далёка перавысіла ідэальную логіку.

Характэрна пры гэтым, што азначаны распад адбываўся і адбываецца зараз выразна аднабакова, з перавагай індывідуалізму, жывёльнасці і цынізму, што, як убачым крыху ніжэй, мае свае прычыны. Я не буду ўжо чапаць Чакаціла і яму падобных вырадкаў: у сям'і, як кажуць, заўсёды не без вырадка. Звярну ўвагу на кіруючую нашу «эліту», што складаецца пераважна з прадстаўнікоў «ума, чести и совести нашей эпохи». Пасля выкрыцця ў такіх страшных калектыўных злачынствах, як хаця б тыя ж Курапаты, пасля так ці гэтак, але саўдзельнічання ў сапраўдным развале краіны, пасля асабістага знеслаўлення з удзелам у брудных, ганебных справах, яны па-ранейшаму сядзяць у кіруючых крэслах, дзе, забіўшы, напрыклад, чалавека, могуць спакойна талкаваць пра прававую дзяржаву. Мой ты Божа! Стары Гегель акрэсліваў некалі дзяржаву як рэальнасць маральнай ідэі. Пра якую мараль і якую дзяржаву можна гаварыць у нас? Брандт, напрыклад, будучы канцлерам ФРГ, адразу ж падаў у адстаўку, як толькі даведаўся, што не дагледзеў у сваім акружэнні камуністычнага шпіёна. А гэтыя... яны б самі сталі шпіёнамі і прадалі б уласную дзяржаву, каб імі толькі не грэбавалі замежныя спецслужбы. Якая ўжо тут прыгажосць і якая гармонія!

З гармоніяй і прыгажосцю справа ў нас абстаяла, аднак, яшчэ складаней. Хаць і ставілі яе, гармонію, афіцыйнаю мэтай камуністычнага развіцця, даставалася ёй у нас, як у Леніна Канту, і злева, і справа. У першыя паслякастрычніцкія гады іх абедзвюх імкнуліся ўвогуле «сбросить с парохода современности». «Сожжем Рафаэля, растопчем искусства цветы!», — заклікаў бальшавіцкі паэт Кірылаў. Нават Маякоўскі, самая трагічная фігура тых трагічных часоў, не ўтрымаўся, каб не ўшчыкнуць гарманічны пушкінскі аўтарытэт: «Я даже ямбом подсюсюкнул, чтоб только быть приятней вам». Усё тое рабілася ў імя будучага, называючыся футурызмам, супрэматызмам, авангардызмам і г.д. І насіла, між іншым, чыста бальшавіцкі ваяўнічы характар. Варта толькі ўспомніць, як яны адносіліся да рэалістаў-ахрраўцаў у першыя месяцы і гады савецкай улады. Нават Леніну даставалася ад іх. І «искусства цветы» яны здорава такі, трэба прызнаць, патапталі. Сучасны крызіс сусветнага мастацтва і смяротная хвароба прыгажосці, што Герберт Рыд акрэсліваў як сацыяльную шызафрэнію, вядзе шмат у чым свой пачатак адтуль. А калі далейшае развіццё краіны пакацілася пад вадзіцельствам Сталіна па зусім ужо другой каляіне і архі-р-рэвалюцыйнае мастацтва перастала яму быць патрэбным, многія з гэтых авангардыстаў раз'ехаліся па ўсім свеце, знайшоўшы там зусім іншую сацыяльную глебу. На гэтай глебе яны працягвалі вырошчваць свае штучныя папяровыя кветкі, абслугоўваючы, як было метка паказана Лукіна Вісконці ў яго фільме «Сямейны партрэт у інтэр'еры», людзей зусім іншае чалавечае пробы. Дзіву даешся, калі бачыш, як некаторыя нашы адукаваныя, сур'ёзныя людзі зараз пачціва, зусім як у Андэрсэна, здымаюць свае капелюшы перад Малевічам, Кандзінскім, Шагалам, Лісіцкім, аддаючы ў той жа час няшчаднай анафеме не толькі бальшавікоў і марксістаў, але і ўсё сваё прагрэсіўна-культурнае мінулае аж да дзекабрыстаў уключна. Тым болей парадаксальна, што менавіта такое мастацтва ў часы так званага застою само стала сцягам эстэтычнага пратэсту, як бы зноўку ўспомніўшы сваю былую рэвалюцыйную хвацкасць.

Але ўсё-такі факт, што планетарна-касмапалітычная архірэвалюцыйнасць таго мастацтва ў самым сваім пачатку была шчырая і насіла рамантычна-ўзнёслы характар. І не толькі ў мастацтве. Такімі былі і самі тадышнія палітыкі, уключаючы нават бязлітасна-жалезнага Фелікса. Гэта былі людзі трагічнага кшталту, фанатычна (нездарма ж слова «фанатык» так сугучна са старагрэчаскім словам thānatos, што значыць «смерць») адданыя сваёй ідэі, дзеля якой яны не шкадавалі ні свайго, ні тым болей жыцця чужога. Існавалі і да бальшавікоў: Жалябаў, Пяроўская, зямляк наш Ігнат Грынявіцкі. Гэта былі тыя самыя людзі, якіх меў на ўвазе Гегель, калі гаварыў, што ў пачатку кожнай эпохі так ці гэтак выдатныя яе людзі выступаюць у форме трагічнага, а ў канцы яе — у форме камічнага. Нездарма ж тыя словы прыводзіць і Маркс у самым першым радку сваёй працы «Васемнаццатае брумэра Луі Банапарта». Словы тыя часта цытаваліся партыйнымі ідэолагамі, але мала хто бачыў іх змрочна-прароцкі сэнс. Дык вось дзеячам той трагічнай эпохі, уключаючы і палітыкаў і мастакоў, гармонія і прыгажосць былі зусім не даспадобы.

